БЕДНЫЯ ЛЮДЗІ

# КУПІЦЕ ВУШЫ

*Гадоў пяць назад — хіба гэта тэрмін? — здаўся дзікім намер нейкай жанчыны прадаць сваю нырку. У транспарце, памятаю, аб гэтым толькі і гаварылі. Адны называлі прадаўца ўласнага жыццёва важнага органа дзівачкай, другія круцілі ля скроні пальцамі: маўляў, з глузду з'ехала.*

*Прайшло зусім нямнога часу — і гандаль целам ці яго часткамі ўжо не здзіўляе. Прадаюць (і купляюць!)... цнатлівасць. Магілёўскія цырульнікі запрашалі не так даўно кліентаў з доўгімі або кучаравымі валасамі — пад «катоўскага» пастрыгуць не толькі бясплатна, але і заплацяць яшчэ кучу грошай — за сыравіну для парыкоў.*

Цяпер новы ажыятаж. На абласной станцыі пералівання крыві — стоўпатварэнне.

Пасля таго, як «Магілёўскія ведамасці» паведамілі насельніцтву пра новыя цэны на донарскую кроў, народ сюды паваліў валам. Нават сем'ямі. Яшчэ б. За дзве шклянкі крыві можна атрымаць да паўмільёна рублёў. Плюс два выхадныя.

Усіх донараў станцыя і так не магла абслужыць тут жа, а зараз — тым больш. Пачаўся запіс у чэргі — як на мэблю ў час дэфіцыту. Шкада, што ў жыллёвых канторах не дадумаліся ўвесці талоны на здачу крыві. Каб не было пакрыўджаных. Атрымаў талон — і спакойны. Захацеў — падставіў вену пад шпрыц, не — «загнаў» такую магчымасць суседу.

Зрэшты, стоп. Тут не смяяцца трэба, а хутчэй плакаць. Медыкі з сумам адзначаюць, што якасць донарскай крыві пагаршаецца. Некаторым здатчыкам хоць тут жа рабі ўліванне, бо яны ледзь перастаўляюць ногі. А здаваць свае апошнія кроплі прымушае іх безвыходнае матэрыяльнае становішча.

Горш лысым і асобам з донарскімі проціпаказаннямі. Але адчайвацца, спадары, не трэба. Прайшоў слых, што недзе ў Расіі з'явілася фірма, якая купляе трупы нябожчыкаў. Грошы авансам чалавек можа атрымаць яшчэ жывым у абмен на дакументальнае абяцанне, што труну з яго целам у «зялёны гай» не знясуць.

Можа, нас ужо пускаюць на мыла?

## МАЛЮТЫ

Аднойчы летам надарылася мне ў Краснапольскім раёне пасвіць «радоўку». Цешча напакавала торбу, я ўзяў пугу і рушыў за невялікім статкам. На пашы кінуў свой «тармазок» пад куст, і ўспомніў пра ежу, калі сонца было ў зеніце. Але маім абедам нехта паспеў паласавацца. Хто? Можа, сабака? Непадобна. Бутэлька малака, адпітая напалову, была закаркавана, агуркі зніклі. Не пакваліцца ж псіна на зеляніну.

Зламыснік праявіў сябе, калі раптам напаўзла хмара і разгулялася нежартоўная навальніца з градам. Я схаваўся пад поліэтыленавай плёнкай і тут адчуў, што ў мой экспромтны шалаш спрабуе забрацца няпрошаны госць. Гэта быў хлопчык гадоў пяці, у адной бруднай маечцы і зашмальцаваных трусіках.

— Дзядзь, а давай я табе дапамагу кароў пасвіць, — прапанаваў ён.

Вечарам, ужо дома, я расказаў пра незвычайнага падпаска.

— Дык гэта ж Малюта, — усклікнула цешча. — Каля кароў корміцца.

— Як? — не зразумеў я.

— А так. Бацькі — п'яніцы, дзяцей напладзілі, а даглядаць няма каму.

Прыбягае неяк Малюта да нас у хату. «Цётка,— кажа, — а давай я табе дапамагу вішні здымаць». Ну які там з яго работнік? Наліла я ў талерку мёду, булку дастала, кавалак каровінага масла паклала. Дык ён, ці верыш, схапіў тое масла і давай грызці. Зубамі. Як ваўчаня. Напэўна, яшчэ не ведаў, што за ежа такая.

Цешча адвярнулася і паднесла да вачэй хустку...

Колькі ж зараз такіх «малют» па вёсках і гарадах!

«Магілёўская праўда» прывяла днямі шчымлівы сюжэт з жыцця беспрытульных бабруйскіх дзетак.

Адны з іх просяць міласціну на вуліцах, другія, каму пашанцавала больш, прыгрэліся... у бальніцах.

Пра «рэспубліку Шкід» зараз, падобна, застаецца толькі марыць. Стварэнне ўстановы для беспрытульных дзяцей абыдзецца гораду больш чым у паўмільярда рублёў, а такіх грошай у бюджэце няма. Бабруйчане прапанавалі свой варыянт: для самых маленькіх беспрытульнікаў адкрыць дадатковую групу ў дзіцячым доме, а для старэйшых — групу ў школе-інтэрнаце. Аднак з аблвыканкома прыйшла адмова.

Вядома, дзяржава калісьці спахопіцца, і беспрытульных дзяцей, як падчас разрухі пасля грамадзянскай вайны, будуць адлоўліваць на вакзалах, здымаць з цягнікоў і ўладкоўваць па-людску. Вось толькі б не зайшоў той «цягнік» занадта далёка.

## ШАЛІК ІМПЕРАТРЫЦЫ

«Веснік Магілёва» змясціў здымак Мікалая II з жонкай Аляксандрай Фёдараўнай і сынам.

Цікавы шлях, па якім гэта рэліквія трапіла ў рэдакцыю гарадской газеты.

Прынёс яе сюды былы супрацоўнік краязнаўчага музея Ілья Бурносаў, якому пашанцавала ў пачатку брэжнеўскага перыяду пагаварыць з незвычайнай наведвальніцай.

Жанчына прыходзіла тады ў музей, каб аддаць гэты здымак, але там з адлюстраваннем самадзержца яе паслалі ад граху падалей, інакш бы і ў дысідэнты загрымела. Ілья рызыкнуў і на выхадзе «перахапіў» бабульку.

Аказваецца, пры ёй быў не толькі здымак, але і шалік самой імператрыцы.

Адбылося ж вось што.

Аднойчы ў хату — прыблізна ў 1916 годзе — да салдаткі, у якой было чацвёра паўголых дзетак, увайшла знатная дама і папярэдзіла гаспадыню, якая паліла печ па-чорнаму, што зараз да яе завітае сама царыца.

Уявіце стан беднай сялянкі (тады Лупалава да горада не адносілася).

Царыца і сапраўды прыходзіла. З дабрачыннай, як зараз сказалі б, місіяй.

Цяпер наведваць збяднелых неяк не прынята. Ды і сядзяць яны не па розных кутках, а выбіраюцца ў цэнтр горада, збіраючы ў свае пацёртыя капелюшы што пададуць.

Кідаюць туды часцей грашовыя знакі, якія ўжо выведзены з абароту, — «вавёрак», «зайцоў», «ласёў»...

Цынізм?

Зрэшты, быў адзін выпадак, калі рэспектабельны грамадзянін падаў жабраку ажно сто долараў.

Ашчаслівілены бядак імгненна знік. І правільна зрабіў. Бо «новы беларус», які, дарэчы, быў тады ў альтруістычным настроі пад уздзеяннем градусаў, кінуўся, як толькі праспаўся, шукаць старога, а таго і след прастыў.

Напісаў тады заяву ў міліцыю: маўляў, выйшла памылка, дапамажыце вярнуць міласціну.

Які час, такія і норавы.

**Васіль ЛЕЎЧАНКА.**

АКТУАЛЬНАЕ ІНТЭРВ'Ю

# САМЫ БУЙНЫ БАНК РЭСПУБЛІКІ ПЛАНУЕ СТАЦЬ У НЕДАЛЁКІМ БУДУЧЫМ «СЯМЕЙНЫМ БАНКАМ»

**Апошнім часам прывычны нам, добра знаёмы Ашчадны банк апынуўся ў цэнтры ўвагі. Спачатку Прэзідэнт сваім указам аб'яднаў яго з яшчэ адной буйной і дынамічнай крэдытнай установай — «Беларусбанкам», і атрымалася вось так: акцыянерны ашчадны банк «Беларусбанк». Да яго ў апошнія дні далучыўся на правах філіяла «Белжелдорбанк» (ці ён апошні?). А яшчэ прайшла «каманда» перадаць сюды рахункі «бюджэтнікаў», і ўсе доўга абмяркоўвалі, што б гэта азначала. І вось, нарэшце, зараз кіраўніцтва банка аб'явіла аб сваім намеры вярнуць укладчыкам «з'едзеныя» інфляцыяй грошы. Мы лічым, наш чытач мае ўсе падставы бліжэй пазнаёміцца са старым і такім новым знаёмым.**

**Аглядальнік «Звязды» сустрэўся з намеснікам старшыні праўлення акцыянернага ашчаднага «Беларусбанка» Вячаславам БАЛІБОКАМ.**



**— Калі б я папрасіў вас назваць некалькі асноўных параметраў, некалькі найбольш выразных штрыхоў да «партрэта» сваёй установы, што б вы адказалі?**

— Што менавіта наш банк устанавіў найбольш цесныя адносіны з насельніцтвам. Зараз у нас прыкладна 19 мільёнаў рахункаў па ўкладах.

**— Але ў краіне насельніцтва менш, чым у вас рахункаў. Хіба ж так бывае?**

— Проста ў аднаго і таго ж чалавека можа быць два, а то і тры ўклады, бо па свайму зместу яны розныя. І яшчэ. У нас — палова ўсіх укладаў, сабраных грашова-крэдытнымі ўстановамі рэспублікі. У абсалютных лічбах гэта складае на пачатак года 2045,6 мільярда — на рублёвых і валютных рахунках. І менавіта наша філіяльная сетка самая густая — больш за тры тысячы аддзяленняў і філіялаў. Ахоплены практычна ўсе буйныя населеныя пункты Беларусі.

**— Што ж, тады ў вас фантастычныя магчымасці для бізнесу. Аб такім доступе да кліентаў не можа, здаецца, марыць ніводзін наш нават самы буйны банк?**

— Мы разглядаем гэтую статыстыку крыху пад іншым вуглом — як магчымасць шырэй задаволіць патрэбы насельніцтва ў банкаўскім прадукце. Геаграфічную блізкасць банкаўскіх установаў дапоўніць комплексам самых сучасных паслуг. На Захадзе існуе такі тэрмін — «сямейны банк», або «дамашні банк». Калі браць за ідэал менавіта такую мадэль, то ў нас сапраўды шмат шанцаў наблізіцца да яе.

**— Але магчымасць можна гэтак жа лёгка і ўпусціць, праўда? Калі дынамічна не развіваць рынак паслуг і не вучыць кадры, якія вам дасталіся ад мінулых часоў. У вас няма адчування, што вашым канкурэнтам больш пашанцавала з кадрамі — яны пачыналі з нуля, а таму набіралі скрозь маладых і здатных да вашай мудрагелістай навукі?**

— Я думаю, мы ў роўных умовах. Яны пачыналі, ці яшчэ толькі пачынаюць, працаваць у радзе выпадкаў сапраўды з маладымі кадрамі. Мы ж сваіх пастаянна перавучваем, і навука «кладзецца» на падрыхтаваную глебу.

**— Вы можаце назваць тыя паслугі, якія сёння прадастаўляюць насельніцтву ўстановы аб'яднанага банка?**

— Паслугі аказваем у комплексе. Выплачваем заработную плату, пенсіі, стыпендыі, дзяржаўную дапамогу, страхавыя сумы і іншыя даходы. Прапануем безнаяўную форму разлікаў пры дапамозе разліковых чэкаў і чэкавых кніжак — за тавары і паслугі. Ажыццяўляем прыём плацяжоў, адрасаваных прадпрыемствам і арганізацыям, прапануем кансультацыйныя і іншыя паслугі.

**— Ну, заработную плату, скажам так, вы выплачваеце рабочым грашыма іх прадпрыемстваў, праўда? Пенсіі, стыпендыі і дзяржаўную дапамогу — з бюджэтных крыніц. Страхавыя сумы — з кішэні страхавых арганізацый. Гэта цудоўна, што ёсць такі пасрэднік, які акумуліруе сродкі, бярэ на сябе чужыя функцыі і спрашчае жыццё многім. Але куды ідуць сродкі, сабраныя вамі на рублёвых і валютных укладах насельніцтва? Дарэчы, якія яны ў вас бываюць?**

— Сродкі насельніцтва ідуць у значнай ступені на крэдытаванне самога насельніцтва. Летась мы крэдытавалі жыллёва-будаўнічыя кааператывы, індывідуальных забудоўшчыкаў, узвядзенне садовых домікаў, пакупку жылля — выдалі крэдытаў на 102 мільярды рублёў. Дабаўце сюды яшчэ 53 мільярды на неадкладныя спажывецкія патрэбы.

Што тычыцца саміх укладаў, то прапануем насельніцтву розныя іх віды: да запатрабавання, тэрміновыя — з рознымі тэрмінамі захоўвання, накапляльныя. Найбольш папулярны — якраз тэрміновы, са штомесячнай выплатай даходу. Першапачатковы ўзнос складае 50 тысяч рублёў. Як я ўжо сказаў, тэрмін захоўвання не абмежаваны. Працэнты могуць выплачвацца і кожны месяц, і за некалькі месяцаў адразу. Летась на гэты від укладу акумуліравана 619,1 мільярда рублёў, адчуваеце? Уласна кажучы, гэты від зберажэнняў з'яўляецца асноўным банкаўскім прадуктам для насельніцтва.

**— Я не магу не задаць вам адно далікатнае пытанне. Дзеля аб'ектыўнасці. І на рублёвым, і на валютным дэпазіце працэнтныя стаўкі ў вас часам меншыя, чым у некаторых іншых банках. Гэта не адштурхоўвае ад вас кліентаў?**

— Нейкую частку — магчыма. Але для другой часткі, як гэта ні дзіўна гучыць, крышку меншы працэнт з'яўляецца як бы сведчаннем большай абачлівасці, а значыць, і большай надзейнасці банка. Людзі зараз навучаныя рознымі «фінансавымі пірамідамі» не толькі ў Маскве, але і ў нас. Я абсалютна нічога дрэннага не хачу сказаць у адрас банкаў, якія знайшлі магчымасць даць большы працэнт. Проста я сцвярджаю, што і меншая працэнтная стаўка не псуе прэстыж крэдытнай установы ў вачах кліента. Асабліва калі ён думае пра надзейнасць укладу.

**— Прабачце, Вячаслаў Дзмітрыевіч. Пра надзейнасць уклада думалі і вашы кліенты канца 80 — пачатку 90-х гадоў...**

— Я разумею, пра што вы. Той перыяд, пра які вы ўспомнілі, быў пачаткам карэннай ломкі занадта многага, і прапалі не толькі грашовыя ўклады. У праблемах, з якімі сутыкнулася наша грамадства, няма толькі чыста нашай віны. Нам здаецца, людзі разумеюць усё правільна, а таму не страцілі давер да Ашчадбанка.

Дарэчы, у сакавіку мінулага года мы правялі разавую кампенсацыю ўкладаў шляхам павелічэння ў дзесяць разоў іх рэшткаў па стану на 1.01.92 года з улікам дэнамінацыі. І сума налічанай кампенсацыі склала амаль 21 мільярд рублёў. Не лічачы кампенсацыі па спецыяльных рублёвых рахунках (па чэках Знешпасылгандлю).

Укладчыкі павінны разумець, што кожны раз, каб выплаціць ім працэнты, банк павінен зарабіць грошы. Адзін з магчымых шляхоў — продаж рэсурсаў на фінансава-крэдытным рынку. Інакш кажучы, прадастаўленне крэдыту — на розныя тэрміны — суб'ектам гаспадарання. Не самы лёгкі і даволі рызыкоўны шлях, тым не менш, летась мы змаглі зарабіць для выплаты сваім укладчыкам 1336 мільярдаў рублёў.

**— Я хацеў бы яшчэ на хвілінку вярнуць вас да тэмы кампенсацыі старых укладаў. У сувязі з новымі намерамі банка.**

— Давайце пакуль што будзем лаканічнымі і скажам так: зараз банк напружана працуе над вызначэннем крыніц фінансавання — для правядзення яшчэ больш важкай, чым мінулагодняй вясной, кампенсацыі тых самых укладаў насельніцтва канца 80 — пачатку 90-х гадоў, якія з'ела інфляцыя. Ідзе распрацоўка варыянтаў правядзення кампенсацыі. Мы зможам падрабязна пагаварыць на гэтую тэму, калі будзе поўная яснасць.

**— Лаўлю на слове... Узнікае думка, што нялёгка быць дзяржаўным, урадавым банкам. Урады робяць памылкі, за якія павінны адказваць банкіры. Альбо праводзяць прыватызацыю, і зноў вам работа...**

— На гэты раз больш прыемная, хоць і вельмі клопатная. У кастрычніку 1993 года рашэннем урада на нас былі ўскладзены абавязкі па выдачы і пераафармленні прыватызацыйных чэкаў «Маёмасць». Сертыфікаты выдадзены больш чым 3 мільёнам грамадзян. Але амаль палова насельніцтва не атрымала свае чэкі. Таму трэба правесці гіганцкую, без перабольшання, работу да ліпеня гэтага года. Карыстаючыся магчымасцю, хацеў бы давесці да ведама грамадзян такую інфармацыю. Калі нехта з іх захоча здаць свае імянныя чэкі ў банк па аб'яўленай намінальнай вартасці — а зараз гэта 35 тысяч рублёў — то пакуль што зрабіць гэта нельга. Іх пагашэнне дзяржава будзе рабіць пасля таго, як скончыцца тэрмін абарачэння, прыватызацыі і раздзяржаўлення.

**— Ці можна атрымаць параду дзелавога чалавека? У інтарэсах чытачоў. Што вы параіце рабіць з чэкамі?**

— Ва ўсякім разе, не варта спяшацца іх прадаваць. Варта ўсё ж выкарыстаць права, якое прадаставіла дзяржава. Уклаўшы грошы ў акцыі таго ці іншага прадпрыемства, чалавек становіцца адным з яго ўласнікаў. На месцах, у нашых банках, ёсць інфармацыя аб прыватызуемых прадпрыемствах. Можна пагартаць іх спісы і, што называецца, прыцаніцца.

**— А ў вас няма статыстыкі, каму аддалі перавагу тыя, хто ўжо атрымаў свае чэкі?**

— Па звестках Дзяржмаёмасці, значную цікавасць выклікаюць прадпрыемствы лясной, дрэваапрацоўчай, харчовай і лёгкай прамысловасці.

**— Каб задаволіць попыт сваіх кліентаў, банкі імкнуцца да міжнароднага супрацоўніцтва. Як справы ў вас?**

— З 1992 года супрацоўнічаем з фінансавай кампаніяй «Вестэрн Юніён», ЗША. Камп'ютэрная сістэма спадарожнікавай сувязі дазваляе ажыццяўляць пераводы ў валюце з 82 краін свету за лічаныя хвіліны. Перавесці свае сродкі за мяжу з нашай дапамогай можа любы жыхар рэспублікі, калі ён мае дазвол банка на вываз валюты за мяжу.

Карэспандэнцкія адносіны ў нас існуюць больш чым з 250 банкамі краін СНД, Балтыі, Заходняй і Усходняй Еўропы, Амерыкі.

**— «З кім павядзешся, ад таго і набярэшся». Чаго набіраецеся вы?**

— Пераймаючы замежны вопыт, пашыраем пералік паслуг насельніцтву. Адно з апошніх новаўвядзенняў — пластыкавая картка для разлікаў. Яна заменіць любы кашалёк і вельмі зручная ў карыстанні. Можна плаціць за тавары, паслугі, з дапамогай банкаматаў здымаць наяўныя сродкі з рахунку ў патрэбны для вас час і ў патрэбным месцы. Мы працуем з карткамі розных міжнародных плацежных сістэм — VISA, MASTER CARD і іншых. Напрыклад, карткай VISA можна разлічыцца ў 11 мільёнах месцаў абслугоўвання ў 220 дзяржавах.

**— Ваш банк разам з тым з'яўляецца эмітэнтам нацыянальнай пластыкавай карткі?**

— Наша мікрапрацэсарная картка «Белкарт» забяспечвае правядзенне безнаяўных плацяжоў у магазінах і на прадпрыемствах сферы паслуг РБ. Па ёй таксама можна атрымаць наяўныя грошы з рахунку ў пунктах выдачы.

**— Мы гаворым, што ашчадны «Беларусбанк» — адзіная фінансавая ўстанова, дзе захаванасць укладаў гарантуецца дзяржавай. Але наколькі ўкладчык абаронены заканадаўча?**

— Да тых нарматыўных актаў, якія ўжо ёсць, вельмі дарэчы было б, з пункту гледжання радавога грамадзяніна, дадаць яшчэ два — закон аб страхаванні ўкладаў насельніцтва і закон аб кампенсацыі ўкладаў.

З пункту гледжання банкаўскага работніка, не лішнім быў бы і закон аб дзяржаўнай дапамозе банкам. Так, як гэта зараз спрабуюць зрабіць нашы суседзі ў Літве. Пасля таго, як банкаўскі крызіс стварыў нямала праблем для эканомікі іх краіны.

**— Значыць, ёсць работа заканадаўцам і тым, хто мае права заканадаўчай ініцыятывы. Будзем чакаць?**

— І працаваць. Усе разам.

**— Дзякуй за інтэрв'ю, Вячаслаў Дзмітрыевіч.**

**Гутарыў Уладзімір ХІЛЬКЕВІЧ.**
**Фота Мікалая АМЕЛЬЧАНКІ.**

РОЗГАЛАС

## ЧЭКАВАЯ ПРЫВАТЫЗАЦЫЯ: 200 ТЫСЯЧ ЗАЯЎ ЗА МЕСЯЦ

**Паводле даных Міндзяржмаёмасці толькі за мінулы месяц каля 200 тысяч нашых суайчыннікаў звярнуліся ў тэрытарыяльныя камісіі з заявамі аб налічэнні ім імянных прыватызацыйных чэкаў «Маёмасць». Такім чынам, на сёння ў бязвыплатнай (чэкавай) прыватызацыі пажадалі прыняць удзел 5,3 мільёна грамадзян Беларусі, альбо 67,1 працэнта ад усяго паўналетняга насельніцтва краіны.**

Як і раней, найбольшую прыватызацыйную актыўнасць дэманструюць жыхары заходніх рэгіёнаў Беларусі — Гродзенскай (77,8 працэнта ад усіх грамадзян, што маюць права на атрыманне чэкаў) і Брэсцкай (72,7 працэнта) абласцей. Нечакана ў студзені да іх далучыліся гамяльчане (75 працэнтаў) і наблізіліся магіляўчане (звярнулася з заявамі каля 70 працэнтаў насельніцтва). Зноў-такі па традыцыі замыкаюць гэты спіс жыхары Віцебшчыны (63,6 працэнта), Міншчыны (61,5 працэнта) і сталіцы (53,8 працэнта). Паколькі да заканчэння тэрміну прыёму ад грамадзян заяў на налічэнне ІПЧ засталося два месяцы, чакаецца, што на працягу іх тэрытарыяльныя камісіі будуць працаваць прынамсі не менш напружана, чым зараз. Па словах кіраўніка ўпраўлення чэкавай прыватызацыі Міндзяржмаёмасці Зінаіды Шаўчэнка, не выключана, што сваё права на атрыманне чэкаў скарыстаюць, у рэшце рэшт, каля сямі мільёнаў нашых суграмадзян.

**Сяргей ГРЫБ.**

## «КУЦЮР» ДЛЯ РОДНАГА НАРОДА

**Як стала вядома карэспандэнту «Звязды», падведзены вынікі паставак прамысловасцю Беларусі адзення і абутку гандлёвым прадпрыемствам краіны ў 1995 годзе.**

Паводле аператыўных звестак, гандлёвымі прадпрыемствамі было атрымана 5,0 млн. адзінак швейных вырабаў, 25,0 млн. адзінак трыкатажных, 26,9 млн. пар панчошна-шкарпэткавых вырабаў, 7,5 млн. пар скуранога, гумавага і лямцавага абутку.

Вырашана пытанне з Навагрудскай швейнай фабрыкай па вытворчасці і пастаўцы ў студзені-лютым 1996 года штаноў мужчынскіх і дзіцячых у колькасці 5000 адзінак. Для забеспячэння насельніцтва таварамі для спорту і турызму дадаткова набыта ў прамысловасці 4000 пар лыжаў, 3000 пар лыжных палак, 2000 дзіцячых санак.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

## ЗЛОДЗЕЙ ПАВІНЕН СЯДЗЕЦЬ У ТУРМЕ

**Паводле даных УУС Мінгарвыканкома 1995 год для асабовага саставу міліцыі быў адным з самых складаных і цяжкіх.**

За мінулы год колькасць толькі зарэгістраваных злачынстваў перавысіла 22-тысячны рубеж. 17 тыс. злачынстваў праходзіла па лініі крымінальнага вышуку, у выніку якіх ад рук злачынцаў загінула 295 чалавек. Самымі страшнымі і распаўсюджанымі злачынствамі з'яўляюцца забойствы — 117 выпадкаў. У выніку дарожна-транспартных здарэнняў загінулі 95 грамадзян, а ад цяжкіх цялесных пашкоджанняў — 83.

Сапраўдным бічом для жыхароў Мінска сталі ў мінулым годзе крадзяжы, яны складаюць 60 працэнтаў ад усіх злачынстваў, учыненых у горадзе. Асабліва сур'ёзнай праблемай для горада стала барацьба з крадзяжамі аўтатранспарту. У сувязі з прагрэсіруючым ростам парка асабістага аўтатранспарту і павышэннем попыту на аўтамабілі, іх вузлы і агрэгаты папаўняюцца рады крымінальнага аўтабізнесу.

Улічваючы ўсё вышэйсказанае, УУС горада наладзіла дзелавое супрацоўніцтва з органамі ўнутраных спраў Расіі і прыбалтыйскіх дзяржаў. Сумесна з літоўскай паліцыяй праведзены апрацоўкі месцаў збыту выкрадзенага транспарту ў г. Мінску і на тэрыторыі Літвы. У выніку выяўлена 6 арганізаваных злачынных груповак. Усяго за 1995 год супрацоўнікамі ДАІ затрымана 590 аўтамашын, якія знаходзяцца ў вышуку АУС рэспублікі.

Упраўленнем унутраных спраў горада адзначаецца ўзмацненне пажарна-тэхнічнага кантролю на аб'ектах. Агульная колькасць пажараў за год скарацілася на 4 працэнты, а пры тушэнні выратаваны 82 чалавекі, 103 адзінкі тэхнікі, матэрыяльных каштоўнасцей на суму каля 14 мільярдаў рублёў. Тым не менш, колькасць людзей, якія загінулі ў агні, павялічылася на трэць. Асноўнай прычынай трагедый з'яўляецца рост колькасці пажараў у жылым сектары па віне п'яных асоб.

Неспакой выклікае паражэнне практычна ўсіх сфер жыццядзейнасці горада такой «хваробай», як вымаганне і хабарніцтва. З гэтай катэгорыяй злачынцаў весці барацьбу асабліва цяжка. Але, як сказаў начальнік УУС Мінгарвыканкома Барыс Тарлецкі, ва ўпраўленні падрыхтаваны спісы верхаводаў бандыцкіх груповак, так званых «паханоў» злачыннага свету. Вызначана чарга для тых, хто павінен сядзець. І яны будуць сядзець, запэўніў Барыс Казіміравіч.

**Сяргей КУРКАЧ.**

# ХТО АБАРОНІЦЬ БЕЛАРУСКАГА СПАЖЫЎЦА?

*Паводле даных органаў Белстандарта рэспублікі, у 1995 годзе абласнымі і гарадскімі цэнтрамі стандартызацыі і метралогіі было праверана каля 2 тысяч прадпрыемстваў і камерцыйных структур, у 70,3 працэнта якіх былі выяўлены выпадкі рэалізацыі прадукцыі нестандартнай і неналежнай якасці (у 1994 годзе — 60,2 працэнта). Калі ў 1994 годзе рэалізавана прадукцыі з названымі парушэннямі на суму 1,1 мільярда рублёў, то летась няякаснай і нестандартнай прадукцыі рэалізавана ўжо на 26,9 мільярда рублёў. З правераных у мінулым годзе прадпрыемстваў розных формаў уласнасці 83,3 працэнта выпускалі для пакупніка прадукцыю нестандартную і няякасную; 38,7 працэнта прадпрыемстваў Мінгандлю і 55,8 працэнта прадпрыемстваў Белкаапсаюза рэалізоўвалі гэтую прадукцыю; 59,4 працэнта арганізацый Белбытсаюза аказвалі няякасныя паслугі. Гэта сумная статыстыка — далёка не безаблічныя лічбы.*

*Няцяжка зразумець, што за кожнай рэалізаванай адзінкай няякаснай прадукцыі тоіцца істотная пагроза для здароўя і нават жыцця спажыўцоў, нас з вамі. З другога боку, упэўнены, кожны з нас хоць аднойчы ў сваім жыцці сутыкнуўся з грубасцю з боку прадаўцоў, якія не толькі не дапамогуць выбраць той ці іншы тавар, не назавуць тэрмін яго захоўвання, асноўныя якасці, краіну-вытворцу, нарэшце, спосабы выкарыстання (на што па закону спажыўцы маюць поўнае права), а яшчэ аблічаць, абважаць, а калі будзем абурацца, аблаюць апошнімі словамі і давядуць пагрозы ледзь не да фізічнай расправы (нават такія выпадкі мелі месца, і па іх заведзены крымінальныя справы). Як у такім выпадку пакупніку абараніць свае правы ад недобрасумленнага рэалізатара або вытворцы? Хто стане на абарону спажыўца? Чаму атрымалася так, што апошнія маюць правы толькі тэарэтычна, на паперы? З просьбай адказаць на гэтыя і некаторыя іншыя пытанні карэспандэнт «Звязды» звярнуўся да загадчыка аддзела па абароне правоў спажыўцоў Міністэрства па антыманапольнай палітыцы Рэспублікі Беларусь Хурса Міхаіла Мікалаевіча.*

**— Міхаіл Мікалаевіч, як увогуле па рэспубліцы справы з абаронай правоў спажыўцоў на сённяшні дзень?**

— Пачнём з таго, што вызначым сутнасць прадмета нашай гутаркі: абарона правоў спажыўцоў — гэта клопат дзяржавы пра апошніх, абарона іх інтарэсаў на рынку тавараў і паслуг. Гаворачы пра абарону правоў спажыўцоў, я хацеў бы зазначыць, што гэта пытанне з'яўляецца адной з найбольш актуальных і злабадзённых сацыяльна-эканамічных праблем усіх дзяржаў сусветнай грамадскасці. Існавала яна з моманту ўзнікнення і развіцця рынкавых адносінаў як праблема пошуку і дасягнення балансу, узгаднення розных (да палярнасці) інтарэсаў вытворцаў, якія імкнуцца рэалізаваць тавар любой якасці і як мага даражэй, пасрэднікаў — прадаўцоў тавараў, і іх спажыўцоў у інтарэсах якіх — мець шырокі выбар тавараў па памяркоўных цэнах. На жаль, у нас у рэспубліцы гэтага балансу дасягнуць пакуль не ўдалося. Трэба адзначыць, што да прыняцця 19 лістапада 1993 года Вярхоўным Саветам «Закона аб абароне правоў спажыўцоў» у рэспубліцы не было закона прамога дзеяння, а як вынік, і адзінай скаардынаванай сістэмы абароны правоў спажыўцоў. Аднак гэта не азначае, што раней насельніцтва рэспублікі як спажыўцы было не абаронена. Існавала хоць і не скаардынаваная, але даволі эфектыўная абарона спажыўцоў сродкамі партыйнага, прафсаюзнага, народнага кантролю, ведамасных кантрольных органаў, якія спецыялізаваліся на разглядзе лістоў, скаргаў і заяў грамадзян, іншых структур.

З парушэннямі правоў спажыўцоў актыўна вялі барацьбу і сродкі масавай інфармацыі. Была сфарміравана і проціпастаўлена гэтай з'яве грамадская думка. Практычна ва ўсіх кропках рэалізацыі насельніцтву тавараў і паслуг кантроль ажыццяўляўся праз «Кнігу скаргаў».

Новая сацыяльна-эканамічная сітуацыя адмоўна адбілася на ўзроўні жыцця насельніцтва. Спажыўцы адначасова адчуваюць на сабе ўздзеянне інфляцыі, падзенне вытворчасці, рост беспрацоўя, скарачэнне бюджэтных выдаткаў на сацыяльныя праграмы. Адбываецца скарачэнне рэальных грашовых прыбыткаў насельніцтва. Узровень абароны спажыўца катастрафічна знізіўся. Амаль поўнасцю знішчаны старыя формы і структуры, якія забяспечвалі абарону насельніцтва. Рынак у той форме, у якой ён зараз у нас існуе, прынёс беларускаму спажыўцу акрамя звыклых яму аблікаў-абважванняў і грубасці прадаўца, падман з дапамогай рэкламы, адсутнасць інфармацыі аб вытворчасці, якасці і спажывецкіх уласцівасцях тавару; грабеж праз аферы розных фінансавых структур; рэалізацыю шкодных для здароўя і нават небяспечных для жыцця тавараў, празмерныя цэны на паслугі. Каб не быць галаслоўным, прывяду некалькі фактаў. З 21 лютага па 11 сакавіка 1995 года ў пасёлку Бальшавік Мінскага раёна адбылося масавае захворванне грамадзян на дызентэрыю. Прычынай шпіталізацыі 199 чалавек з'явілася парушэнне санітарна-гігіенічных патрабаванняў пры ўстаноўцы помпаў на каналізацыйнай станцыі раённай службай камунальнай гаспадаркі і падача насельніцтву заражанай пітной вады. Вось яшчэ прыклад: у маі таго ж года 16 чалавек, якія заплацілі грошы, прыехалі ў санаторый «Бярэсце» Брэсцкай вобласці, каб адпачыць, захварэлі на сальманелёз у выніку ўжывання адвараных кур, якіх прыгатавалі з парушэннем тэхналогіі і тэрмінаў рэалізацыі. На жаль, падобных выпадкаў здараецца нямала.

Недастатковы кантроль дзяржаўных органаў за дзейнасцю структур, якія аказваюць фінансавыя паслугі насельніцтву, у выніку чаго допушчаны падман насельніцтва так званымі «фінансавымі пірамідамі». Так, у 1995 годзе толькі пракуратурай Мінска ўзбуджана 15 крымінальных спраў па фактах масавага падману спажыўцоў «фінансавымі пірамідамі» на суму прыкладна 60 мільярдаў рублёў.

**— Міхаіл Мікалаевіч, дзе хаваюцца прычыны ўсіх гэтых недахопаў і парушэнняў?**

— Аналіз сітуацыі па абароне правоў спажыўцоў, якая склалася ў рэспубліцы, паказвае, што прычынамі ў многім з'яўляюцца: недасканаласць нарматыўна-прававой базы, неразвітасць арганізацыйнай інфраструктуры, адсутнасць сістэмы інфармацыі і асветы насельніцтва па пытаннях дасведчанасці пакупніка і правоў спажыўца.

Ацэньваючы стан нарматыўна-прававой базы абароны правоў спажыўцоў у рэспубліцы, трэба адзначыць яе недасканаласць і відавочную неадпаведнасць патрэбе практыкі ў існуючай сацыяльна-эканамічнай сітуацыі. Перш за ўсё гэта датычыцца самога Закона «Аб абароне правоў спажыўцоў», які толькі з вялікай нацяжкай можна назваць законам прамога дзеяння па абароне правоў спажыўцоў, што поўнасцю пацвярджаецца пры параўнанні яго з дзеючымі заканадаўствамі Расіі, Украіны, іншых краін СНД.

Да абароны правоў спажыўцоў у Рэспубліцы Беларусь ў той ці іншай ступені маюць дачыненне практычна ўсе міністэрствы і іншыя цэнтральныя органы дзяржаўнага кіравання, мясцовыя органы выканаўчай улады. Трэба адзначыць актыўную работу ў накірунку аховы здароўя і бяспекі спажыўцоў Белстандарта і службы галоўнага санітарнага ўрача Міністэрства аховы здароўя, Службы кантролю пры Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Першыя крокі разам з гэтай арганізацыяй па распрацоўцы і ўвядзенню сістэмы стандартаў па якасці прадуктаў харчавання, продажы асобных відаў тавараў, відах і метадах гандлю зроблены Мінгандлем і Мінсельгасхарчам. Белстандартам і службай галоўнага санітарнага ўрача праводзіцца работа па прадухіленню рэалізацыі на рынках рэспублікі няякасных тавараў, работ, паслуг. Аднак і тут ёсць шэраг нявырашаных праблем, а менавіта: неадпаведнасць патрабаванням практыкі матэрыяльна-тэхнічнай базы гэтых органаў, неразвітасць у арганізацыйным плане на рэгіянальным узроўні, тая ж недасканалая нарматыўна-прававая база. У ядро дзяржаўных органаў па абароне правоў спажыўцоў уваходзяць праваахоўныя органы, мытныя службы, міжведамасныя кантрольныя службы. У ранейшай сітуацыі адсутнічаў дзяржаўны орган, у функцыі якога ўваходзіла і арганізацыя кантролю за выкананнем заканадаўства па абароне правоў спажыўцоў у цэлым і каардынацыя іншых органаў у дадзеным накірунку. Пастановай Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь № 304 ад 15 чэрвеня 1995 года ў якасці такога органа вызначана Міністэрства па антыманапольнай палітыцы. Арганізацыйная функцыя абароны правоў спажыўцоў МАП і яго тэрытарыяльных камітэтаў прадстаўлена аддзелам міністэрства з трох спецыялістаў, аддзелам у камітэце пры Мінскім гарвыканкоме з пяці спецыялістаў і ў абласных камітэтах — адным-двума спецыялістамі. На ўзроўні раёна, гарадоў абласнога падпарадкавання, у буйных пасёлках гэтыя структуры адсутнічаюць. Калі звярнуцца да арганізацыйнай структуры рэспубліканскага Таварыства па абароне правоў спажыўцоў, няцяжка заўважыць, што яна мае тыя ж самыя недахопы. Для параўнання: тэрытарыяльнае ўпраўленне Ленінградскай вобласці (без г. Санкт-Пецярбурга) з колькасцю насельніцтва прыкладна роўнай адной трэці колькасці насельніцтва Беларусі: аддзел па абароне правоў спажыўцоў — 7 спецыялістаў, аддзелы і асобныя спецыялісты ў буйных гарадах агульнай колькасцю 161 спецыяліст, больш за 500 упаўнаважаных у буйных пасёлках.

Неабходна канстатаваць, што у рэспубліцы адсутнічае сістэма інфармавання і асветы насельніцтва па пытаннях спажывецкай адукацыі і абароны правоў спажыўцоў: адсутнічае спецыялізаваны па дадзеным пытанні друкаваны орган (напрыклад у той жа Расіі — часопіс «Спрос»), публікацыі па гэтай праблеме носяць эпізадычны характар, у іх адсутнічае цэласнае бачанне праблемы, сетка кансультатыўных пунктаў па пытаннях абароны правоў спажыўцоў.

**— Відавочна, у нашай сістэме абароны правоў спажыўцоў шмат недахопаў і праблем. А як падобныя праблемы вырашаюцца ў іншых краінах?**

— Клопат аб эканамічным дабрабыце і сацыяльным спакоі вымусіў асобныя дзяржавы, а затым і сусветную грамадскасць выпрацоўваць адзіныя прынцыпы і ствараць сістэмы дзяржаўнай абароны правоў спажыўцоў. У 1973 годзе Еўрапейскі саюз на 25-й сесіі Кансультатыўнай асамблеі прыняў Хартыю абароны спажыўцоў, 9 красавіка 1985 года Генеральная Асамблея ААН прыняла «Кіруючыя прынцыпы для абароны інтарэсаў спажыўцоў». Згодна з гэтым дакументам дзяржавы бяруць на сябе клопат аб абароне інтарэсаў насельніцтв на рынку тавараў і паслуг, абавязацельствы па стварэнні і развіцці сістэмы размеркавання асноўных найбольш важных для насельніцтва тавараў і паслуг. Ва ўсіх краінах абарона спажыўцоў заснавана на адпаведнай нарматыўна-прававой базе, якая пастаянна ўдасканальваецца з улікам змяненняў сацыяльна-эканамічнай сітуацыі.

У той жа час далёка не ўсе дзяржавы маюць комплекснае заканадаўства па абароне правоў спажыўцоў. У ЗША, Англіі, Германіі, Італіі, Грэцыі, Нідэрландах і Швецыі выдадзены нарматыўныя акты, якія рэгулююць толькі некаторыя адносіны, напрыклад, па бяспецы прадукцыі ў цэлым ці асобных яе відаў. У астатніх выпадках дзейнічаюць агульныя нормы грамадзянскага права. У Іспаніі, Францыі, Партугаліі, Фінляндыі, Бельгіі, Расіі і нашай краіне дзейнічаюць спецыяльныя нарматыўныя акты па абароне правоў спажыўцоў. Адзіная краіна ў свеце, дзе заканадаўства па абароне правоў спажыўцоў кадзіфікавана — Бразілія. Кодэкс абароны правоў спажыўцоў гэтай краіны — комплексны нарматыўны акт, які ўключае ў сябе розныя нормы грамадзянскага, адміністрацыйнага, працэсуальнага і крымінальнага права. Акрамя гэтага, трэба адзначыць, што краіны еўрапейскага супольнасці распрацавалі шэраг уніфікаваных нарматыўных актаў па абароне правоў спажыўцоў, што вызначае палітыку ў гэтай сферы з улікам забеспячэння ў рамках аб'яднанага ўнутранага рынку.

**— Міхаіл Мікалаевіч, якія шляхі выйсця з гэтай складанай сітуацыі для Беларусі вы бачыце?**

— Аналіз сітуацыі з абаронай правоў насельніцтва на рынку тавараў, работ і паслуг паказвае, што для стварэння ў рэспубліцы эфектыўнай сістэмы дзяржаўнай абароны правоў спажыўцоў трэба будзе вырашыць цэлы шэраг прававых, арганізацыйных і сацыяльна-эканамічных праблем. Трэба прывесці ў адпаведнасць з патрабаваннямі практыкі нарматыўна-прававую базу па абароне правоў спажыўцоў, для чаго неабходна па-першае, распрацаваць і ўнесці на разгляд Вярхоўнага Савета новую рэдакцыю Закона «Аб абароне правоў спажыўцоў», якая была б заснавана на сусветным вопыце прававога рэгулявання гэтага пытання, па-другое, ажыццявіць уніфікацыю закона з міжнароднымі нарматыўна-прававымі актамі, і ў першую чаргу з законамі краін СНД. Па-трэцяе, распрацаваць і ўнесці ў Вярхоўны Савет пакет прыкладна з 60 новых законаў, якія б поўнасцю ліквідавалі прабелы, што існуюць у цяперашняй нарматыўна-прававой базе. Патрабуе ўдасканалення арганізацыйная структура сістэмы дзяржаўнай абароны правоў спажыўцоў. У мэтах найбольш поўнага вывучэння і пераймання вопыту іншых краін па абароне правоў спажыўцоў дзяржава павінна аказваць садзейнічанне супрацоўніцтву рэспубліканскіх структур, якія маюць дачыненне да абароны правоў спажыўцоў, з аналагічнымі міжнароднымі арганізацыямі на аснове членства ў гэтых арганізацыях. Аднак на гэтым шляху ўзніклі пэўныя цяжкасці. Дзяржава сёння знаходзіць сродкі для паездак спецыялістаў за мяжу для абмену вопытам. Знаходзіць тысячы марак і долараў. У нас узнікла неабходнасць уступлення ў міжнародную канс'юмерскую арганізацыю. Уступны ўзнос усяго 300 долараў ЗША. Валютная камісія на гэта грошай не дала. МАП згодна за кошт свайго бюджэту ўнесці гэтыя 300 долараў, аднак не атрымана дазволу і на гэта. Гэтыя грошы вярнуліся б дзяржаве з працэнтамі, бо пры ўступленні гэта арганізацыя гарантуе прадастаўленне на рускай мове ўсіх дакументаў, матэрыялаў па еўрапейскаму вопыту, якога нам зараз так не хапае. А пераклад адной старонкі тэксту, як вядома, сёння каштуе каля 5 долараў ЗША.

Для стварэння ў рэспубліцы эфектыўнай сістэмы дзяржаўнай абароны правоў спажыўцоў таксама неабходна стварэнне сістэмы адукацыі насельніцтва ў гэтай галіне. Мэтай стварэння такой сістэмы з'яўляецца распаўсюджванне сярод насельніцтва ведаў у галіне правоў спажыўцоў, якія забяспечаць яму граматнасць, кампетэнтнасць і самаабарону на рынку тавараў, работ і паслуг. Асвета насельніцтва як спажыўцоў павінна ажыццяўляцца органамі дзяржаўнага кіравання ўсіх узроўняў усімі законнымі і даступнымі сродкамі і метадамі, асноўнымі з якіх з'яўляюцца: размяшчэнне інфармацыйных лісткоў, вытрымак з законаў на спецыяльных стэндах у вызначаных месцах, чытанне спецыяльных курсаў лекцый, правядзенне дзелавых гульняў і практычных заняткаў па праблемах абароны правоў спажыўцоў для розных катэгорый насельніцтва ў школах, ПТВ, сярэдніх спецыяльных і вышэйшых навучальных установах. Добра б было ўвесці пастаянныя рубрыкі адукацыі насельніцтва па пытаннях абароны правоў спажыўцоў на радыё і тэлебачанні, у цэнтральным і мясцовым друку. У гэтым плане я ўдзячны некаторым перыядычным выданням, сярод якіх і газета «Звязда», якія своечасова ўсвядомілі актуальнасць гэтай праблемы і неабходнасць яе вырашэння. Супрацоўніцтва дапаможа паскорыць працэс аб'яднання намаганняў дзяржаўных органаў, грамадскіх арганізацый і ўжо сёння дазволіць данесці інфармацыю да спажыўца. Мы прыкладзём усе намаганні, каб як найхутчэй стварыць рэальную магчымасць для спажыўца ў выпадку неабходнасці звярнуцца па канкрэтную дапамогу.

**Гутарку вёў**
**Сяргей ПРОТАС.**

